*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2017, № 1(11). Студзень

## Са “Слонімскім краем” — у 2017 годзе

Наш краязнаўчы бюлетэнь распачынае свой другі год выдання. Спадзяемся, што ён будзе для нас больш спрыяльным, чым папярэдні. Без тэхнічных збояў, без нявыхаду нумароў, як атрымалася ў снежні 2016-га. У працы рэдакцыі працягваюць браць удзел людзі, для якіх “СК” — сапраўды важны праект.

“Слонімскі край” не стаіць на месцы, мы будзем працаваць над паляпшэннем, як знешняга выгляду выдання, так і яго зместу.

У 2017 годзе пачнем друкаваць нарыс пра гісторыю слонімскага спорту ў міжваенны час (у 1920-1930-я гады), адкрыем невядомыя прозвішчы спартсменаў, трэнераў, суддзяў. Працягнем публікаваць цікавыя археалагічныя і гістарычныя матэрыялы з архіву краязнаўца Васіля Супруна. У “СК” з’явяцца чарговыя падборкі архіўных дакументаў пра Слонімшчыну падчас Другой сусветнай вайны, у тым ліку па “Якімавіцкай справе”. Яшчэ не раз вернемся да тэмы слонімскіх падзямелляў.

“І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім”, — пісаў паэт Алег Лойка. Мы любім наш горад, ганарымся яго славутым мінулым, перажываем за яго цяперашні стан, спадзяемся на лепшую будучыню Слонімскага краю.

***Рэдакцыя***

## У Кракаве выстаўляліся слонімскія габелены Міхала Казіміра Агінскага




У кастрычніку-снежні 2016 года ў Кракаве прайшла выстава “Габелены Агінскіх у зборах Каралеўскага замку на Вавелю”.

Працяг на ст. 4

## Слонім і слонімцы на малюнках нямецкага мастака



Людвіг Вільгельм Марцін Марыс пабываў у нашым горадзе восенню 1915 года.

Працяг на ст. 3

# Макет Жыровіцкага манастыра ў музеі архітэктурных мініяцюр "Краіна міні"










У снежні 2016 года ў Мінску ў Рэспубліканскім палацы культуры прафсаюзаў адчыніўся музей архітэктурных мініяцюр "Краіна міні". Гэта адначасова і асветніцкі, і турыстычны праект. У адным месцы можна пабачыць макеты ўсіх знакавых архітэктурных помнікаў Беларусі, у тым ліку Жыровіцкага манастыра (ён яшчэ дапрацоўваецца) і Косаўскага палаца Экспазіцыя музея будзе паступова папаўняцца. Магчыма, у ёй з'явяцца макеты і іншых славутасцяў былога Слонімскага павета.

*Здымкі Рагнеды Ёрш*

# Выява Жыровіцкай іконы Маці Божай на дакуменце 1667 года





На сайце polona.pl змешчаная грамата караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра, якой ён надаваў уніяцкаму кляштару базыльянаў у Жыровічах вёску Була ў Слонімскім павеце. Дакумент быў напісаны на пергаміне 19 траўня 1667 года. Захоўваецца ў Фондзе князёў Чартарыскіх.

Мяне зацікавіў малюнак на дакуменце, змешчаны пад гербамі. Гэта адзін з самых старажытных малюнкаў Жыровіцкай іконы Маці Божай.

***Генадзь Гурскі***

# Слонім і слонімцы на малюнках нямецкага мастака

Працяг, пачатак на ст. 1.

Нямецкі мастак-пейзажыст Людвіг Вільгельм Марцін Марыс (Ludwig Wilhelm Martin Morisse, 1870 — 1936) пабываў у Слоніме восенню 1915 года на пачатку акупацыі горада. На ўсходні фронт ён трапіў са свайго Ольдэнбурга ў 1914-м годзе ў якасці ваеннага карэспандэнта. Знаходзіўся ва Усходняй Прусіі, пасля ў Польшчы, Галіцыі і ў Беларусі. Шмат маляваў: у асноўным аловак майстра ствараў партрэты людзей, якіх ён сустракаў (нямецкіх вайскоўцаў і мясцовых жыхароў), таксама цікавіўся храмамі, паколькі да вайны займаўся іх рэстаўрацыяй.

На інтэрнэт-аўкцыёнах сярод малюнкаў Марыса тры дакладна адносяцца да Слоніма, яны былі зробленыя ў кастрычніку-лістападзе 1915 года. На двух з іх немец зафіксаваў руіны на Замосці, мы бачым пашкоджаны касцёл святога Андрэя. Вельмі цікавы трэці малюнак — партрэт двух мясцовых жыхароў. Зроблены ён быў на Гандлёвай плошчы (цяпер — плошча Леніна).

СЁ





## Старыя здымкі

# Разбураны прыгарад Слоніма

Фота на паштоўцы, якую змяшчаем у гэтым нумары “СК”, было зроблена восенню 1915 года пасля заканчэння баёў паміж рускімі і нямецкімі войскамі. “Разбураны прыгарад Слоніма” — гэта Замосце.

Фота: ***ebay.com***


Zerstörte Vorstadt von Slonim.

# У Кракаве выстаўляліся слонімскія габелены Міхала Казіміра Агінскага



Працяг, пачатак на ст. 1.

Была прадстаўлена серыя з сямі шаўковых габеленаў з выявамі статуй антычных багоў і герояў. Вядома, што іх замовіў слонімскі староста, гетман ВКЛ Міхал Казімір Агінскі (1730 — 1800) для ўпрыгожвання сваёй рэзідэнцыі ў нашым горадзе. З гэтай мэтай была заснаваная ў 1782 годзе ў Слоніме мануфактура.

12 габеленаў вырабіў у 1784-1788 гадах нямецкі ткач Ёган Карл Клетш, які быў запрошаны з Саксоніі. Праекты выканаў італьянскі тэатральны архітэктар і дэкаратар Іначэнца Мараіна. Ён скарыстаўся парыжскім выданнем гравюр з выявамі скульптур з садоў у Версалі. Габелены ткаліся шоўкам на ільняной аснове. Паводле задумкі, яны мусілі імітаваць скульптурную галерэю. Нічога падобнага ў Еўропе ў той час не было.

12 трохметровых габеленаў упрыгожвалі мураваны садовы павільён "Зала багінь", які знаходзіўся каля палаца Міхала Казіміра Агінскага і опернага тэатра ў Слоніме. Агінскі вывез калекцыю ў Варшаву. Праз два гады пасля яго смерці калекцыя габеленаў




*Буклет да выставы*

была прададзеная. Яе набыў граф Войцех Пуслоўскі (1762 — 1833). Частка іх была ў палацы ў Альбярціне, частку адвезлі аж у палац у Чарткове ў тагачасную Келецкую губерню (Польшча), пасля яны трапляялі і ў іншыя палацы — у Беларусі і Літве. У далейшым некаторыя габелены трапілі ў рукі Чартарыйскіх, Чапскіх, Алізараў. Мяркуецца, што пяць з іх загінулі падчас Першай сусветнай вайны.

Кракаўскі музей пачаў збіраць калецыю габеленаў Агінскага з 1935 года, калі атрымаў першыя два з іх ("Флейтыст" і "Амфітрыта") у падарунак ад Марыі Агінскай. Падчас Другой сусветнай вайны многія сем'і арыстакратаў выехалі з Польшчы на Захад, разам з імі ў Італію, Англію, Канаду, ЗША павандравалі і творы мастацтва. У 2009 го-дзе ў музеі стала 5 габеленаў. Дадаліся "Геркулес" і "Сатурн" — дэпазіты Фонду імя Цеханавецкіх у Каралеўскім замку ў Варшаве, а таксама "Менада" — дэпазіт Фонду князёў Чартарыйскіх у Кракаве.

У студзені 2015 года граф Францішак Ксаверый Пуслоўскі ў Вашынгтоне ахвяраваў Каралеўскаму замку ў Кракаве два габелены — "Леда" і "Флора". Яны прайшлі рэстаўрацыю. Цяпер усе 7 вядомых даследчыкам ацалелых габеленаў Агінскага, выдатных твораў мастацтва, сабраліся ў адным месцы.

Нельга без суму чытаць радкі ў рэпартажах польскіх журналістаў, якія здзіўляюцца, што габелены, найбольш крухкія і далікатныя элементы "літоўскага Версалю" (Слоніма), захаваліся да сённяшняга дня, а ні рэзідэнцыі Агінскага, ні яго опернага тэатру даўно няма і следу.

***Генадзь Гурскі***





















***Выстава габеленаў Агінскага ў Кракаве, снежань 2016 г. Фота: PAP, lovekrakow.pl***

# Загадкі слонімскіх замкаў

“СК” працягвае друкаваць матэрыялы з архіву слонімскага краязнаўцы Васіля Супруна (1926 — 2007). Тэкст, які публікуем у гэтым нумары, прысвечаны слонімскім замкам. У архіўнай папцы* ёсць некалькі варыянтаў артыкулаў на гэтую тэму. Адзін з іх друкаваўся ў газеце “Гродненская правда”**, іншы — ў газеце “За перамогу камунізму”.*** Высвятляецца, што апублікаваныя яны ў скароце, цікавыя думкі Супруна былі выкрэсленыя рэдактарамі. Мы змяшчаем тэкст, які з’явіўся пасля шматлікіх перапрацовак, якія рабіў краязнаўца. На ім ёсць пазнака “5-я рэдакцыя”. Артыкул не датаваны. Дакладна можна сцвярджаць, што ён быў зроблены пасля 1983 года.

Васіль Супрун паслядоўна даказваў, што старажытны слонімскі замак да пачатку XVI стагоддзя знаходзіўся на Замосці. Пасля яго чарговага знішчэння ён не быў адноўлены, тады новы замак пабудавалі на левабярэжжы Шчары. Атрымліваецца, што арганізатары ўстаноўкі восенню 2016-га мемарыяльнага каменя каля Опернай вуліцы, на якім напісана “Замчышча. XI-XVIII ст. ст.”, меркавання Васіля Рыгоравіча не ўлічылі.

***Сяргей Ёрш***

Старыя хронікі паведамляюць, што ў пачатку XIII ст. у Слоніме (летапісным Услоніме, Васлоніме) ужо існаваў драўляны замак, які ў 1241 г. быў знішчаны татара-манголамі, але зразу ж адноўлены.[1] Пад 1281 г. успамінаецца і “князь васлонімскі” Васілько.[2] Гарадской крэпасцю і сядзібай удзельных князёў замак быў яшчэ і ў XIV ст. Толькі з канца XV ст. прызначэнне яго часткова змянілася, на месца князёў прыйшлі намеснікі, а пасля — старосты.

Згодна апошніх гістарыяграфічных дадзеных, драўляны замак у Слоніме існаваў ужо з XII ст. і размяшчаўся на ўзвышаным левым беразе р. Шчары ў цэнтры сучаснага горада.[3] З гэтым узвышшам фактычна звязвалася ўся гісторыя горада і яго замкаў.

Тут, між вуліцамі Першамайскай, Савецкай, імя Энгельса (так яна называлася на час напісання артыкула, цяпер — Оперная. — СЁ) і Маякоўскага, на тэрыторыі былога палаца М. Агінскага, так званым Замчышчы ў 1959 і 1968 гадах былі праведзены археалагічныя раскопкі.[4]

Найбольш цікавымі і змястоўнымі аказаліся напластаванні XI-XV стагоддзяў. Выяўлена нямала вырабаў з дрэва, гліны, металаў, скуры, косці, шкла, каменя; рэшткі зрубных жылых і гаспадарчых будынкаў, драўляныя насцілы вуліц, а таксама частка землянога вала гарадзішча XI ст., якое служыла ўмацаваннем для навакольных селішчаў, але абарончым замкам горада не стала.

Пры раскопках не ўдалося выявіць ні прыкмет тагачасных замкавых збудаванняў, ні нават характэрных знаходак. З вайсковага рыштунку знойдзена толькі некалькі наканечнікаў стрэл, шлем і два фрагменты шпораў.

З усяго відаць, што раскапана не старажытнае замчышча, а звычайная рамесніцкая частка старога горада.

Дзе быў замак XII-XV ст. — гатовага адказу не даюць ні дакументальныя, ні графічныя, ні археалагічныя матэрыялы.

Да нядаўняга часу адну з аддаленых ад цэнтра і Замчышча вуліц горада называлі Замкавай (цяпер — Камсамольская). Назва гэтая прыцягвала ўвагу даследчыкаў загадкавасцю і старажытнасцю, бо існавала яна не адно стагоддзе. Аднак ні паходжанне назвы гэтай вуліцы, ні значэнне тэрміна “Ніжні замак”, які сустракаецца ў дакументах, не высветлена.

Відаць, для таго, каб звязаць дзве гэтыя гістарычныя назвы, А. Квітніцкая нават “мураваны дом мясцовага шляхціца” на Замкавай вуліцы, збудаваны ў XIX ст., назвала “Ніжнім замкам”.[5]

У 1930-я гады Іосіф Стаброўскі і Годэль Гольдберг выказвалі меркаванні, што першапачаткова цэнтр Слоніма і яго замак маглі размяшчацца на правабярэжжы р. Шчара, на так званым Замосці[6], спасылаючыся пры гэтым на будаўніцтва тут у 1490 г. вялікім


5-я рэдакцыя

Загадкі слонімскіх замкаў.

Старыя хронікі паведамляюць, што ў пачатку XIII ст. у Слоніме (летапісным Услоніме, Васлоніме) ужо існаваў драўляны замак, які ў 1241 г. нібы быў знішчаны татара-манголамі, але зразу ж адноўлены.1) Пад 1281 г. успамінаецца і „князь васлонімскі" Васілько.2) Гарадской крэпасцю і сядзібай удзельных князёў замак быў і ў XIV ст. Толькі з XV ст. прызначэнне яго часткова змянілася, на месца князёў прыйшлі

князем Казімірам Ягелончыкам (1427 — 1492) першага ў горадзе каталіцкага касцёла і існаванне найстарэйшых хрысціянскіх і яўрэйскіх могільнікаў, а таксама частыя знаходкі гараджанамі прадметаў вайсковага ўзбраення з XII-XV стагоддзяў. Археалагічныя пошукі І. Стаброўскага не далі жаданых вынікаў.

Цяпер, калі матэрыялы археалагічных раскопак пераканаўча сведчаць аб тым, што ў XI ст. горад існаваў на процілеглым, левым беразе ракі, гіпотэза гэтая не знаходзіць прыхільнікаў. Выказваецца нават думка, што "прадмесце Замосце, заселенае сялянамі" стала вядомае толькі ў XVI стагоддзі.[7]

У сувязі з гэтым цікавую і не двухзначную інфармацыю дае план горада 1796 года. На ім яшчэ добра бачныя сляды колішняга ўмацавання на Замосці — замка, размешчанага на паўночным мысе невялікага ўзвышша ў трыкутніку між правым берагам Шчары і яе безымянным прытокам, на месцы сучаснага чыгуначнага пераезда ў пачатку вуліцы імя Горкага. На плане прыкметны падрэзкі схілаў вакол амаль круглай пляцоўкі дыяметрам каля 70 метраў і шырокі роў з усходняга боку, які аддзяляў умацаванне ад названага вышэй найстарэйшага хрысціянскага могільніка. У XVIII стагоддзі па дну рова праходзіў так званы Моўчадскі тракт.

Метраў 200 на поўдзень ад замка, на месцы колішняга першага ў горадзе драўлянага касцёла, у 1775 г. быў узведзены мураваны касцёл св. Андрэя. А яшчэ далей на поўдзень размяшчаўся найстарэйшы яўрэйскі могільнік



*Замак і пасад каля яго на Замосці ў Слоніме ў XIII ст. Рэканструкцыя Васіля Супруна.*

з канца XIV — пачатку XV ст.

На жаль, пры будаўніцтве чыгункі ў канцы мінулага стагоддзя не толькі рэшткі ўмацавання, але і суседні могільнік былі цалкам зрэзаны для падсыпкі чыгуначнага палатна. Пры будаўнічых работах цяпер удалося выявіць толькі частку абваднога рова, які відавочна запаўняўся вадой з суседняга ручая.

У XVIII стагоддзі вакол умацавання ўжо не было ні кругавога рова з вадой, ні крэпасных сцен, а былая замкавая пляцоўка — забудавана драўлянымі жылымі дамамі. Колішняя шырокая Замкавая плошча між умацаваннем і касцёлам змяніла не толькі выгляд, але і назву — стала называцца пляцам Льва Сапегі. Толькі паранейшаму ад плошчы радыяльна разыходзіліся тры тракты: на Мінск, Вільню, Гродна.

Тракт на Гродна, так званы Дзярэчынскі тракт (гасцінец) праз масты на р. Шчара злучаў з Замкавай плошчай левабярэжную частку горада і прыгарадную вёску Панасоўку. На левабярэжжы тракт ужо ў тыя далёкія часы называўся Замкавым, а пасля забудовы дамамі, прыкладна з XVI ст. стаў называцца Замкавай вуліцай.

Як бачым, назва гэтая не мела нічога агульнага з пазнейшымі левабярэжнымі замкавымі і палацавымі збудаваннямі і, тым больш, з гарадскімі асабнякамі.

Аб тым, што замак у XII-XV стагоддзях размяшчаўся на правабярэжжы Шчары, сведчаць і дадзеныя старых актаў, якія паведамляюць, што Леў Сапега надзяліў адбудаваны ім касцёл на Замосці зямлёй з "агароду замкавага"[8], што размяшчаўся побач.

На мяжы XV і XVI стагоддзяў, пасля аднаго з разбурэнняў, замак на Замосці больш не аднаўляўся. Развіццё горада і бліжэйшая гістарычная перспектыва патрабавалі пераносу цэнтра і замка на больш перспектыўны левы бераг ракі, дзе горад рос хутчэй.

Новы замак быў узведзены на ўзвышшы побач са Шчарай і старым гарадзішчам, пры намесніку Яну Мікалаевічу Радзівілу каля 1520 года. Нямала прычыніўся да яго ўмацавання і пазнейшы староста слонімскі

Працяг на ст. 8

канцлер вялікі літоўскі Леў Іванавіч Сапега (1557 — 1633).

Пакуль што цяжка вызначыць, якім быў новы замак, бо слядоў ад яго час не збярог, а на плане 1796 года на месцы замкавых збудаванняў ужо значацца будынкі палаца М. Агінскага. Частка былых замкавых збудаванняў магла ўвайсці ў палацавы комплекс з частковай рэканструкцыяй.

У XVI стагоддзі на тэрыторыі Слоніма фактычна існавалі два замкі: на Замосці стары разбураны, так званы Ніжні замак, і на левабярэжжы — новы Верхні замак, або проста Замак. У паняцці “замак” яшчэ асацыіравалася ўяўленне і аб старым замку на Замосці, таму для канкрэтызацыі ўжываліся дзве назвы: новы — Верхні, стары — Ніжні.

У новым слонімскім замку, па хадайніцтве Льва Сапегі, з 1597 года па 1685 год збіраліся генеральныя сеймікі Вялікага княства Літоўскага, на якія з’язджаліся сенатары і паслы з Навагрудскага, Віленскага, Брэсцкага, Полацкага, Смаленскага і іншых ваяводстваў.

У час руска-польскай вайны 1654-1667 гадоў замак быў разбураны і, відаць, цалкам ужо не аднаўляўся.

У 1965 годзе пры пракладцы гарадской каналізацыі па вуліцы імя Энгельса, побач з Замкавым узвышшам, на месцы былога тэатра М. Агінскага на глыбіні ад 0,9 да 2,5 метра выявілі рэшткі старога мураванага будынка, за вокнамі якога ляжаў драўляны вадаправод з 5-6-метровых бярвенняў дыяметрам 25-35 см і свідравінай дыяметрам 50 мм.

Захавалася частка цаглянай сцяны на вапнавым растворы, таўшчынёй 1,3 метра, вышынёй да 1,2 метра і даўжынёй



Схема Услоніма XIIIст.
(Рэканструкцыя В.Супруна)

16 метраў, а таксама падмурак пад яго з каменняў на такім жа растворы даўжынёй каля 40 метраў. На вышыні ў адзін метр ад падмурка выяўлены два аконныя праёмы шырынёй 1,55 метра з прасценкамі між імі ў 6 метраў. Цэгла ручной фармоўкі, не зусім аднолькавая, памеры прыблізна 32 на 15 на 5-6 см, непадобная на цэглу з развалін палаца М. Агінскага, што сведчыць аб значна больш раннім узвядзенні гэтага будынка.

Пры будаўніцтве гандлёвага цэнтра па вуліцы імя Маякоўскага ў 1970 годзе на глыбіні каля трох метраў ад дняўной паверхні коўш экскаватара натрапіў на моцную цагляную муроўку невядомага тунэля. Як выявілася пасля даўжыня неразбуранага ўчастка гэтага збудавання складала 21 метр. У заходнім канцы, перад самым завалам, у скляпенні тунэля меўся вертыкальны цагляны калодзеж дыяметрам 60 см. Вышыня тунэля — 1,95-2 метра, шырыня — 1,2 метра, а над уступам — 1,3 метра. Столевае скляпенне арачнае паўцыркульнае, падлога цагляная роўная. Муроўка не атынкаваная, з вон-

кавага боку бачныя ўкрапленні каменняў. Таўшчыня сценак — 76-80 см, а вышэй — 65 см. Раствор вапнавы, цэгла ручной фармоўкі 30 на 14 на 7 см. Завал ва ўсходнім канцы тунэля быў зроблены ў 1920-я гады нашага стагоддзя.****

Узводзіўся тунэль не ў спецыяльна выкапанай канаве, а на дне ўжо заплыўшага шырокага рова, нават без адпаведнай зачысткі грунта. Прызначэнне і дата будаўніцтва тунэля канкрэтна не вызначана. Аднак на плане горада 1825 г. на гэтым месцы адзначаны яшчэ шырокі роў з перакідным мастом.

Ва ўсходняй частцы будаўнічага раскопа на глыбіні каля 4 метраў побач з тунэлем выяўлена цагляная арачная перамычка таўшчынёй 95 см і некалькі кавалкаў цагляных сцен старажытных падвалаў такой жа таўшчыні са слядамі тынкоўкі з аднаго боку. Муроўка, відавочна, XVI-XVII стагоддзяў.

Разрозненыя і фрагментарныя пісьмовыя і археалагічныя дадзеныя ўсё ж даюць магчымасць зрабіць выснову, што ў XI ст. на тэрыторыі Услоніма існавалі два ўмацаваныя гарадзішчы, размешчаныя на абодвух берагах Шчары, якія і паслужылі прычынай не толькі ўзнікнення горада, але і яго назвы. Бо паходзіць назва Услонім ад славянскага слова “услон”, што абазначала “заслон”, своеасаблівы ўсходнеславянскі фарпост на Шчары[9], які перакрываў русла ракі з абодвух бакоў, такім чынам поўнасцю кантралюючы гэтую важную вадзяную магістраль краю.

Адно з гарадзішчаў — правабярэжнае — з’явілася асновай адзначанага вышэй замка.

Пошукавыя работы працягваюцца і можна спадзявацца, што будуць знойдзены новыя матэрыялы.*****

Літаратура:

[1] Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, jeograficznym i statystycznym... T. 3. — Warszawa, 1846. S. 630.

[2] Полное собрание русских летописей. Т. II. — Санкт-Петербург, 1843. С. 209.

[3] Барышаў Г. Слонімскі Ніжні замак // Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. IX. — Мінск, 1973. С. 588; Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. —Мінск, 1983. С. 11.

[4] Пех Г. Раскопки древнего Слонима // Древности Белоруссии, Минск, 1966. С. 275-279; Зверуго Я. Археологические работы в Слониме // Беларускія старажытнасці. — Мінск, 1972. С. 248-289.

[5] Квітніцкая А. Стары Слонім // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1979, № 4. С. 29.

[6] Goldberg G. Zarys dziejów miasta Słonima. — Słonim, 1934. S. 57.

[7] Помніка Слоніма. С. 14.

[8] Aleksandrowicz B. Z przeszłości Słonima i ziemi Słonimskiej. — Słonim, 1935 (В. Супрун памылкова паставіў датай выдання 1939 год — СЁ). S. 32.

[9] Супрун В. З гісторыі Слоніма // Беларусь, 1961, № 5. С. 29.

***Васіль Супрун***

*Яна мае назву “Рознае: славяне, русь, анты, гідраніміка, раскопкі ў Слоніме, аб назве Слонім, Жыровічы, слонімскія замкі, тунэль, штрыхаваная кераміка”. Тэксты, малюнкі, планы, з якіх яна складаецца, адносяцца да канца 1950-х — 1980-х гадоў. Рэдакцыя “СК” удзячная нашаму чытачу Васілю Рубцу за прадастаўленыя матэрыялы.

**Супрун В. Слонимский замок // Гродненская правда, 1971, № 31, 13 лютага.

***Супрун В. Слонімскія замкі // За перамогу камунізма, 1973, № 90, 28 ліпеня; № 91, 31 ліпеня.

****У іншым варыянце артыкула В. Супрун удакладняе — у 1928 годзе.

*****Гл. наступную публікацыю: Ёрш С. Дзе быў старажытны слонімскі замак? // Слонімскі край, 2016, №3, красавік.

## 130 гадоў слонімскай чыгуначнай станцыі



6 снежня (па новым стылі) 1886 года адкрылася чыгуначная станцыя Слонім. У той час яна знаходзілася на Баранавіцка-Беластоцкай (Палескай) чыгунцы. Здымак часоў Першай сусветнай вайны.

## Сёлета ў Слоніме ўсталююць помнік Льву Сапегу

У канцы мінулага года ў інтэрв’ю слонімскім журналістам старшыня райвыканкама Алег Таргонскі паабяцаў, што ў першай палове 2017-га ў нашым горадзе з’явіцца помнік Льву Сапегу (1557 — 1633), канцлеру ВКЛ, слонімскаму старосце. Ён лічыць самым удалым месцам цяперашнюю плошчу Леніна.

*Знаходка года*

# Здымкі Слоніма, зробленыя з нямецкага самалёта 100 гадоў таму

Знаходкай 2016 года можна з упэўненасцю назваць тры фотаздымкі Слоніма, зробленыя з нямецкага самалёта падчас Першай сусветнай вайны. Два з іх летам з’явіліся на ebay.com. На адным з іх бачым тагачасную ўскраіну горада з боку Рышчыц — казармы, склады, жылыя дамы, палі, цяперашнія Чырвонаармейскую, Шасейную вуліцы, Косаўскі тракт, мост праз Шчару. На здымку ёсць нават домік, у якім нарадзіўся паэт Гальяш Леўчык (Ляўковіч)! На другім фота — цэнтр Слоніма, Замосце, Абалонь, паўночна-заходняя ўскраіна. Можна нават разгледзець будынкі, якія былі на “Замчышчы”.




Восенню ў інтэрнэце з’явілася рэдкае выданне — ваенна-геаграфічны агляд Беларусі, выдадзены ў 1941 годзе ў Берліне. У ім ёсць яшчэ адно фота Слоніма, зробленае з нямецкага самалёта падчас Першай сусветнай вайны. На гэты раз з паўднёвага-захаду. Можна разгледзець будынкі на частцы Ружанскай і цяперашняй Чырвонаармейскай вуліц. Добра бачны цэнтр горада, храмы, масты. Дарэчы, у тым жа выданні змешчаны план Слоніма. Немцы пазначылі асноўныя аўтадарогі, вакзал, тры храмы ў цэнтры горада, усе масты, нават невялічкія на ўскраіне, ручаі. Таксама ў кнізе пададзеныя статыстычныя дадзеныя — колькасць жыхароў, дамоў, прадпрыемстваў, навучальны установ і г. д.

Тры аэрафота Слоніма — гэта сапраўдны скарб для даследчыкаў. Магчыма, у будучыні знойдуцца і іншыя здымкі, на якіх могуць быць адлюстраваны ўскраіны горада, якія пакуль апынуліся “па-за кадрам”.

***Сяргей Ёрш***




**28. Sslonim** im Durchbruchstal der Schtschara durch den Westrussischen Landrücken. (BB* 344)
Der Kern der Stadt zieht sich nach slawischer Siedlungsweise die Talaue entlang, die hier mehr als 1 km breit ist. Rechts im Mittel- und Hintergrund die Schtschara, die hier zwei Arme bildet. Blick nach NW.
26






# Пра скульптуру Маці Божай каля СШ № 5

Краязнавец Васіль Супрун у сваёй кнізе “Дзеі над Шчарай” пісаў: “Недзе ў 1938 годзе на рагу школьнага пляцу па вуліцы 3-га Мая (сучасная Чырвонаармейская) была ўстаноўлена цудоўная скульптура Маці Божай з кветкавымі газонамі”.* Цяпер на тым месцы — невялікае ўзвышэнне (каля плоту з боку былой кнігарні). У свой час даводзілася



чуць гісторыю пра тое, як была знішчана скульптура. У 1939 годзе, як прыйшлі бальшавікі, імі быў з’агітаваны нейкі чалавек з мясцовых жыхароў (магчыма, што з першых Рышчыц). Яму даручылі зняць фігурку Маці Божай. Пайшоў ён туды, зняў яе і дахаты ўжо не вярнуўся. І пра лёс гэтага чалавека нічога не было вядома. Вось такая гісторыя.

***Мікалай Ракевіч***

**Супрун В. Дзеі над Шчарай (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 101.*

*Слонімскія карэспандэнцыі*

# Пажар у кінатэатры «Мадэрн»

Першы слонімскі кінатэатр з’явіўся больш за сто гадоў таму, яшчэ пры царскіх расійскіх уладах. Знаходзіўся ён на Парадхай вуліцы (цяперашняй Першамайскай, яе ніжняя частка). Пры польскіх уладах на вуліцы Сянкевіча (на той жа Першамайскай, толькі яе верхняй частцы) дзейнічаў кінатэатр “Мадэрн”. Менавіта ў ім 6 кастрычніка 1929 года і адбылося здарэнне, якое магло прывесці да вялікай колькасці ахвяр. Вось што пісала газета “Навагрудскае жыццё”:




**Pożar kina w Słonimie**

SŁONIM, 6.X (tel. wł.). Dziś o godz. 12 m. 30 w nocy w czasie wyświetlania filmu p. t. Przedwiośnie Żeromskiego w ki- … znał silnego oparzenia obu rąk. Film częściowo spłonął. Dzięki przytomności umysłu pełniącej służbę policji zdołano pożar

“Сёння ў 12 гадзін 30 хвілін ночы падчас паказу фільма пад назвай “Ранняя вясна Жэромскага”* ў кінатэатры “Мадэрн” у Слоніме загарэлася кінаплёнка. Вынікам выбуху агня стала паніка ў зале сярод прысутных. Людзі кінуліся ўцякаць і заблакавалі вузкі праход. Больш за дзясятак асобаў атрымалі моцныя пашкоджанні. Адзін з кінамеханікаў атрымаў моцныя апёкі абодвух рук. Фільм часткова згарэў. Дзякуючы прысутнасці духу паліцыі, якая несла службу, пажар удалося задушыць у зародку і пазбегнуць страшэнных наступстваў. Здарэнне магло мець большыя памеры, калі б адбылося на адным з вечаровых сеансаў, калі зала была да краёў запоўнена гледачамі”.**

Будынак “Мадэрна” не захаваўся, таму дакладна рэканструяваць тыя падзеі ўжо немагчыма.

***СЁ***

**Фільм Генрыка Шары “Ранняя вясна” па аднайменнай аповесці Стэфана Жэромскага (1864 — 1925) выйшаў на экраны Польшчы ў 1928 годзе. Ён быў нямы. Да сённяшняга часу гэты фільм не захаваўся. Новая экранізацыя аповесці Жэромскага з’явілася ў 2001 годзе.*

***Zycie Nowogródzkie (Навагрудскае жыццё), 1929, № 276, 7 кастрычніка.*

# Прадпрыемствы Слоніма ў XIX стагоддзі



Меморандумъ.
Телеграммы:
Слонимъ, Айзенштадту.
ПАРОВЫЕ
лѣсопильные заводы
въ г. СЛОНИМѢ и при ст. КОССОВО,
Дрожжево-винокуренный заводъ и вальцовая мельница
Бр. Айзенштадтъ
ВЪ Г. СЛОНИМѢ.
Слонимъ, Мая 19
Азовско-Донском
Милостивые Государи!

Калі даследаваць і апісваць гісторыю Слоніма XIX стагоддзя, нельга не згадаць прадпрыемствы горада, якія на той час тут дзейнічалі і давалі добры прыбытак іх гаспадарам. Пра гэта, вядома ж, павінна некалі быць напісана цэлая кніга, бо гэтая тэма даволі шырокая і цікавая. Але мне сёння хочацца толькі прыгадаць помнікі слонімскай прамысловасці XIX стагоддзя, а гэта фабрыкі, заводы, млыны, цагельні і г. д. Прыгадаць іх па гадах, што ўдалося адшукаць у архівах і розных старых выданнях, даведніках. Таму чытайце і здзіўляйцеся, чым быў у XIX стагоддзі багаты горад над Шчарай.

**1815 год**
У Слоніме дзейнічалі дзве суконныя фабрыкі, 3 паперні, вялікая медная фабрыка і шэраг дробных прамысловых і рамонтных майстэрняў.

**1824 год**
Пачала працаваць вялікая суконная фабрыка сенатара М. Навасельцава. Яна налічвала 28 ткацкіх станкоў, якая штогод давала каля 30 тысяч аршынаў тонкага высокаякаснага сукна рознай афарбоўкі.

**1826 год**
Адкрылася суконная фабрыка Абрама Каменамосцкага. Акрамя сукна, прадпрыемства выраблялa коўдры. Каменамосцкі трымаў таксама папяровую фабрыку і медны завод. У Слоніме тады ужо працавалі некалькі гарбарняў, цагельняў, млыноў, дзясяткі піваварняў і бровараў, ганчарныя промыслы і іншыя.

**1835 год**
Як адзначаецца ў "Ведамасцях статыстычнага камітэта" за 1835 год, прамысловасць Слоніма складалася з такіх лічбаў:
Суконная фабрыка — 1
Дывановая фабрыка — 1
Цагляная фабрыка — 1
Піўная фабрыка — 4
Вінакурні — 9

**1843 год**
У гэтым годзе была адкрыта ў Слоніме медзеапрацоўчая фабрыка. Яна дзейнічала да 1855 года. Фабрыка выраблялa медны посуд, дэфекацыйныя і выпарныя катлы для цукровых заводаў.

**1870 год**
У Слоніме існавалі толькі 5 фабрык. Гэта дзве гарбарні, вінакурня, цагельня і фабрыка ганчарных вырабаў.

**1877 год**
У горадзе налічвалася 19 фабрык, якія поўнасцю належалі яўрэям. Сярод іх:
Вяровачная — 1
Кафлі — 1
Бровары — 4
Алейня — 1
Паравыя млыны — 2
Смалакурня — 1
Гарбарні — 3
Цагельні — 2
Ганчарных вырабаў — 4
На гэтых прадпрыемствах працавалі толькі 47 чалавек.

**1881 год**
Згодна "Ведамасцяў статыстычнага камітэта" за 1881 год, у Слоніме былі наступныя фабрыкі і заводы:
Мылаварныя — 1
Свечачныя — 1
Гарбарныя — 3
Маслабойні — 1
Вінакурні — 1
Піваварні — 4
Мукамольныя млыны — 2
Лесапільні — 2
Канатныя — 3
Цагляныя — 4
Ганчарныя — 3

**1882 год**
У Слоніме дзейнічалі 3 фабрыкі: 2 канатныя і 1 тытунёвая, а таксама 22 заводы:
Піўныя — 4
Цагельныя — 3
Мукамольныя — 2
Гарбарныя — 2
Ганчарні — 4.
Па адным заводзе актыўна працавалі — медаварны, маслабойны, смаляны, мылаварны, свечачны, кафельны і бровар.

**1890 год**
У гэтым годзе пачала дзейнічаць фабрыка хустак. Да 1900 года фабрыка выраблялa шарсцяныя хусткі ручнога вязання.

**1896 год**
У Слоніме быў адкрыты водаправод.

**1897 год**
Працавалі 4 фабрыкі і 28 заводаў.
Фабрыкі:
Шарсцяная — 2
Тытунёвая — 1
Гільзавая — 1
Заводы:
Ганчарны — 5
Цагельны — 4
Піваварны — 3
Канатны — 3
Мукамольны — 2
Па адным заводзе ў Слоніме былі: медаварны, воцатны, маслабойны, шкіпінарны, мылаварны, свечачны, кафельны, бровар, ганчарня, а таксама заводы па вырабе драўляных штор і саламяных абалонак для бутэлек.

*Сяргей Чыгрын*

# Пра трагічны лёс партызанскага сувязнога Леаніда Якубені

**Наш чытач Мікалай Іванавіч Ракевіч даслаў у рэдакцыю ўспаміны пра падзеі часоў нямецкай акупацыі і пра лёс Леаніда Якубені (1923 — 1944), жыхара пасёлка (хутара) Медухава (цяпер гэта Зэльвенскі раён, каля самай мяжы са Слонімскім). Адзначым, што ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца яго дзённік, таму да гэтай тэмы з часам яшчэ вернемся.**




У часы акупацыі Беларусі 1941-1944 гадоў ад пачатку немцы стараліся наладзіць мясцовае кіраўніцтва і паліцыю. Вялікае значэнне надавалі працы чыгункі і шасейных дарог, каб забяспечваць патрэбы фронту. Абходчыкам на чыгунцы працаваў Лёня Якубеня, сям’я якога жыла ў пасёлку Медухава чыгуначнага раз’езда Плецянічы. Бацька Лёні працаваў рабочым на смалакурні гэтага ж пасёлка.

З пачатку 1942 года ў нашай мясцовасці пачалі дзейнічаць партызаны, якія псавалі чыгунку, падрывалі эшалоны з варожай сілай і тэхнікай. Акупанты прымушалі мясцовае насельніцтва высякаць лес на адлегласці 200 метраў па абодва бакі чыгункі, а бярвенні адвозіць на лесапілку ў Медухава. Апілены лес і дошкі грузілі на платформы і адпраўлялі ў Германію.

Мужчыны з бліжэйшых вёсак кожны дзень павінны былі працаваць на лесапавале, выконваць даведзены план. Іншы раз нечакана на лесапавале з’яўляліся некалькі нямецкіх салдат. Калі ў гэты час хтосьці ад стомы прысеў на хвіліну адпачыць ці закурыць, то даставаў пачастунак дубінкай.

У кожную пятніцу і мне, тады яшчэ падлетку, даводзілася з сякерай разам з дарослымі ісці на работу ў лес каля чыгункі. Меў такое заданне партызана Антона Амяльянавіча Урублеўскага. У гэты дзень абавязкова прыходзіў абходчык на чыгунцы Лёня Якубеня “перакурыць” з рабочымі. Ён сядаў на якое-небудзь бервяно побач са мной, сувязным ад партызан, і неўзаметку клаў у кішэню запіску. Часам на словах папярэджваў аб небяспецы і днях узмоцненай аховы чыгункі.

Аднойчы Лёня Якубеня не прыходзіў на сустрэчу са мною больш двух тыдняў. Было гэта вясной 1944 года. Камандзір групы разведчыкаў-партызан атрада імя Ракасоўскага Антон Урублеўскі вырашыў пасланць у Медухава мяне і дарослую жанчыну Любу Гушчу. Узялі мы ў свае карзіны па некалькі дзясяткаў яек і накіраваліся ў пасёлак, каб абмяняць яйкі на фарбу. Прыйшлі ў Медухава дзесьці апоўдні. Фарбы ў немцаў не аказалася, заплацілі нам за яйкі маркамі. Стаім, разглядаем усё навокал. На нашае шчасце ўбачылі Лёню, які ішоў дадому на абед. Убачыў і ён нас, але прайшоў міма, нават не спыніўся. На хаду ціха сказаў, каб мы хутчэй адыходзілі дадому, бо прыехала высокае нямецкае начальства, нямецкія салдаты паўсюль.

Мы хуценька пакінулі пасёлак, дзе жылі немцы, што ахоўвалі чыгунку. Ужо пачалі мінаць апошнія хаты, у якіх жылі нашыя людзі, мясцовыя. Як бачым, што на ўскрайку лесу ад чыгункі бягуць у наш бок тры нямецкія салдаты і махаюць рукамі, каб мы ішлі ў напрамку да іх. Хочаш-не хочаш, а ісці да іх трэба. Падыходзім. У Любы правяраюць пашпарт, заглядаюць у нашыя карзінкі, а потым вядуць нас у напрамку чыгункі. Тут і мы заўважылі, што на чыгунцы знаходзіцца група немцаў, відаць, нейкае начальства. Адзін немец быў у высокай круглай шапцы з бліскучай цэшкай. Да яго і звярнуўся адзін з нашых канваіраў, рапартаваў пра нас. Той высокі начальнік махае рукой, што азначала: можна нас адпусціць. На гэтым скончылася наша затрыманне. Дахаты ішлі ўжо без прыгод.

Працяг на ст. 14



Працяг, пачатак на ст. 13.

Гэта была мая апошняя сустрэча з Лёняй Якубеняй. Падзеі 1944 года развіваліся хутка. Стала відавочна, што неўзабаве нямецкім акупантам прыйдзе канец. Яны сталі прадаваць насельніцтву дошкі і іншы матэрыял, а абсталяванне лесапілкі грузілі ў вагоны і адпраўлялі на захад.

Пра тое, як Лёня загінуў, ведаю са слоў партызана з групы Урублеўскага Аляксандра Іванавіча Гушчы. Дзесьці за два тыдні* да прыходу савецкай арміі на раз'ездзе Плецянічы, які знаходзіцца побач з пасёлкам Медухава на запасным пуці каля двух дзён знаходзіўся вайсковы эшалон з уласаўцамі. Адзін салдат з гэтага цягніка завёў гутарку з бацькам Лёні Якубені Васілём аб тым, "як ім абрыдла служыць чужынцам і яны гатовы далучыцца да партызан, каб толькі знайшоўся такі чалавек, які акажа ім дапамогу ў гэтай справе". Ён так пераканаўча гаварыў аб сваім жаданні сустрэцца з партызанамі, што стары чалавек-бацька Лёні паверыў яму і заявіў, што яго сын зможа арганізаваць сустрэчу з партызанамі.

Як толькі былі сказаны гэтыя словы, гутарка адразу прыняла другі, злавесны характар. Адзін узброены салдат застаўся ў хаце Якубеняў, а другі хуценька пабег за падмогай. Бацька і сын былі арыштаваны, іх завялі ў вагон эшалона і ўчынілі допыт з катаваннем. Пазней мёртвых іх выкінулі з вагона падчас руху цягніка на першым перагоне каля станцыі Азярніца. Маці, Таццяна Пятроўна, і сястра Лёні Якубені Людміла, якія ў час размовы знаходзіліся ў суседнім пакоі дома, выскачылі праз акно і схаваліся ў недалёкім лесе.

Лёгкадумная даверлівасць Якубені-старэйшага абярнулася трагедыяй для яго і сына. Лёня Якубеня больш за два гады трымаў сувязь з партызанамі, перадаваў каштоўныя звесткі пра ворага і ні разу не пападаўся, нават не выклікаў да сябе падазрэнняў з боку акупантаў.** А тут здарылася такая недарэчнасць і ў такі час, калі ўжо нам свяціла перамога ў гэтай жорсткай вайне.

***Мікалай Ракевіч***

**Па некаторых звестках, гэта адбылося за пяць дзён да вызвалення Слоніма. — "СК".*

***Аднойчы Леаніда Якубеню арыштоўвалі па падазрэнні ў сувязі з партызанамі і ён нейкі час сядзеў у турме. — "СК".*

# Генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў цяпер у адстаўцы




27 снежня мінулага года стала вядома, што наш зямляк генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў звольнены з вайсковай службы ў адстаўку па ўзросце. Ураджэнцу вёскі Вяценеўка 67 гадоў. З лістапада 2013-га Мальцаў быў старшынёй Дзяржаўнага памежнага камітэта. Да гэтага ён двойчы быў міністрам абароны (у 1995-1996 і 2001-2009 гадах), займаў пасаду дзяржсакратара Савета бяспекі Беларусі (у 2009-2013 гг.).

# Насценны калядар “Знакамітыя людзі Слонімшчыны”




Сябры Слонімскага згуртавання дэмакратычных сіл у канцы мінулага года выдалі накладам 1000 асобнікаў насценны каляндар на 2017 год “Знакамітыя людзі Слонімшчыны”. Адзначым, што на ім змешчанае фота і біяграфічныя дадзеныя вядомага лекара і грамадскага дзеяча Івана Шэгі, якога ўжо няма сярод нас.

# 25 гадоў таму ў Слоніме быў надрукаваны першы каляндар у незалежнай Беларусі

Споўнілася 25 гадоў, як у Слоніме быў надрукаваны першы каляндар у незалежнай Рэспубліцы Беларусь. Ён выйшаў у снежні 1991-га на прадпрыемстве “Альбярцін”. Каляндар на 1992 год меў назву “Славутасці Беларусі”. Яго падрыхтавалі слонімцы Сяргей Чыгрын і Рыгор Жук. Чыгрын шукаў па старых выданнях партрэты князёў Вялікага княства Літоўскага, а Жук іх маляваў.

На календары былі адлюстраваны дзяржаўны ў той час герб Рэспублікі Беларусь — “Пагоня” (герб ВКЛ), карта Вялікага Княства Літоўскага з бел-чырвона-белай стужкай і партрэты вялікіх князёў.

Каляндар выйшаў накладам каля 20 тысяч асобнікаў. Распаўсюджвалі яго не толькі ў Слоніме і ў Гродзенскай вобласці, але і ў Мінску, інфармуе racyja.com.




# Жыровічы — цэнтр турызму і адпачынку нацыянальнага значэння


САВЕТ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

СОВЕТ МИНИСТРОВ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

ПАСТАНОВА

ПОСТАНОВЛЕНИЕ

15 декабря 2016 г. № 1031

г. Мінск

г. Минск

Об утверждении Генеральной схемы размещения зон и объектов оздоровления, туризма и отдыха Республики Беларусь на 2016 – 2020 годы и на период до 2030 года

У снежні 2016-га Савет міністраў зацвердзіў Генеральную схему размяшчэння зон і аб’ектаў аздараўлення, турызму і адпачынку Рэспублікі Беларусь на 2016-2020 гады і на перыяд да 2030-га (дагэтуль дзейнічаў дакумент, прыняты ў сакавіку 1981 года). Цэнтрам турызму і адпачынку нацыянальнага значэння вызначаны Жыровічы. У спісе, куды патрапіла мястэчка, 16 населеных пунктаў (Брэст, Віцебск, Гомель, Мір, Нясвіж і г. д.). Разам з Будславам Жыровічы прызналі цэнтрам рэлігійнага турызму. Гэта не толькі гонар, але і адказнасць — узмацняецца ахова аб’ектаў культурнай спадчыны.

Сярод 21 цэнтра турызму і адпачынку рэгіянальнага значэння знайшоўся і наш Слонім (у кампаніі з ім — Ваўкавыск, Ліда, Навагрудак, Ружаны, Пружаны, Кобрын, Заслаўе ды іншыя гарады). У адпаведнасці з дакументам, у Слоніме і Жыровічах прадугледжваецца фармаванне турыстычных зон, якія будуць уключаць пераважна цэнтральныя гістарычныя часткі населеных пунктаў разам з аб’ектамі турыстычнай інфраструктуры.

Таксама прадугледжваецца стварэнне так званых “турыстычных калідораў”, якія мусяць спрыяць развіццю транзітнага і аўтамабільнага турызму. Наш горад трапіў у адзін з іх: Вільня — Ліда — Слонім — Баранавічы — Пінск — Столін — Роўна — Львоў — Румынія.

Мяркуецца, што Жыровічы і Слонім у спісе з 33 населеных пунктаў нашай краіны (разам з Мінскам, Брэстам, Гродна, Нясвіжам і г. д.) будуць аб’яўленыя “гістарычнымі паселішчамі”. Гэта толькі паспрыяе захаванню іх гістарычнага аблічча.

Сярод сумных навін — запланаваная ліквідацыя ў Слонімскім раёне зоны адпачынку мясцовага значэння “Іса”. Яе ўключылі ў спіс зон адпачынку, якія не адпавядаюць экалагічным і санітарна-эпідэміялагічным нормам ды правілам.

**СЁ**

Слонімцы ў свеце

## Збігнеў Хмялеўскі


fototeka.fn.org.pl

Польскі рэжысёр і кінасцэнарыст Збігнеў Хмялеўскі нарадзіўся ў Слоніме 1 снежня 1926 года. Яго бацька Казімір выкладаў фізіку і хімію ў настаўніцкай семінарыі, але ў 1929-м разам з сям'ёй выехаў з нашага горада. Яшчэ юнаком Збігнеў трапіў у савецкі ГУЛАГ, але выжыў. Пасля вызвалення жыў у Польшчы, звязаў сваё жыццё з кіно і зрабіў выдатную кар'еру. Збігнеў Хмялеўскі памёр 25 лютага 2009-га ў Лодзі.

***Генадзь Гурскі***

## Класік ізраільскай літаратуры, БНР і Слонім



Дзякуючы знойдзенаму архіўнаму дакументу, стала вядома, што класік ізраільскай літаратуры Хаім Нахман Бялік (1873 — 1934) меў грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1921 годзе ён звяртаўся ў консульства БНР у Канстанцінопалі і яму зрабілі пашпарт. У ім месцам нараджэння Бяліка спецыяльна была пазначаная не Жытоміршчына ва Украіне, а беларускі горад Слонім. Ён, дарэчы, бываў у Беларусі, вучыўся на Валожыншчыне. Магчыма, Хаім Нахман Бялік наведваў і наш горад, таму пагадзіўся на такое фіктыўнае "месца нараджэння".




***Генадзь Гурскі***

Кнігарня

## Новая кніга Сяргея Чыгрына



racyja.com

Напрыканцы 2016 года ў мінскім выдавецтве "Кнігазбор" выйшла чарговая кніга краязнаўца і паэта Сяргея Чыгрына — "Час спагадлівым не бывае". Гэта зборнік краязнаўчых і літаратуразнаўчых артыкулаў.

**Замовы на атрыманне электроннай версіі "СК" дасылайце на нашу пошту: slonimskikraj@gmail.com**

**"Слонімскі край"** — краязнаўчае электроннае выданне.
Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года В. Герасімчыкам, С. Яршом і С. Чыгрыным.
Рэдактар нумару ***Сяргей Ёрш***.

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на "СК" пры перадруку абавязковая.